ВЫДАЕЦЦА З САКАВІКА 1935 ГОДА

# КІРАВЕЦ

СУБОТА, 24 чэрвеня 2000г.

№ 48 (8117)

Раённая грамадска-палітычная газета

Узнагароджана Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР

Цана 24 руб.

На тэму дня

## КАБ НЕ ДАВЯЛОСЯ СТАТКУ ГАЛАДАЦЬ

Сёлетнія пагодныя ўмовы не вельмі спрыяюць земляробам гаспадарак раёна ў тым, каб дасягнуць пастаўленай перад імі мэты ў нарыхтоўцы неабходнай колькасці кармоў на прадстаячую зімоўку для грамадскага і ўласнага пагалоўя жывёлы. З вясны пасевы замарозіла, пазней — засушыла, а хутка, як абяцаюць сіноптыкі, — замочыць. Як сведчаць дадзеныя райсельгасхарчу, пасля майскіх замаразкаў у калгасах і саўгасах давялося перасеяць амаль 500 гектараў азімых культур. З-за адсутнасці сродкаў гаспадаркі не могуць набыць патрэбнай колькасці гаруча-змазачных матэрыялаў, корманарыхтоўчая тэхніка зношана, не хапае запасных частак. Але, нягледзячы ні на якія складанасці, вяскоўцы актыўна вядуць нарыхтоўку кармоў.

З траў першага ўкосу сёлета плануецца мець па 7 цэнтнераў кармавых адзінак на ўмоўную галаву. Каб не ўпусціць тэрміны, працаўнікі гаспадарак імкнуцца хутчэй закончыць касавіцу траў, своечасова падкарміць сенажаці і пашы мінеральнымі тукамі, тым самым забяспечыўшы належны ўраджай другога ўкосу. А наогул, як зазначыў пры размове першы намеснік старшыні райвыканкама, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання С.У.Свірко, з двух укосаў плануецца атрымаць у сярэднім 13-14 цэнтнераў кармавых адзінак травянога фуражу.

Актыўна вядуць касавіцу траў калгас "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага, СКП "Ніва" і "Чырвоны баец", Жыліцкі сельгаскаледж, саўгас "Шыннік", калгас імя Дзяржынскага і іншыя гаспадаркі. У іх і працэнт скошанага высокі, і назапашана больш іншых сена, сенажу, і захоўваюцца ўсе неабходныя тэхналогіі. А вось у калгасах імя Кірава, "Беларусь", імя Чапаева, імя Ільіча, "Радзіма", імя Свярдлова, "III з'езд Саветаў" кармы нарыхтоўваюцца марудна. Такое становішча спраў тлумачыцца, у першую чаргу, вынікам нізкай якасці работ па падрыхтоўцы і рамонту корманарыхтоўчай тэхнікі да сезону, слабай арганізацыі работ на месцах.

Улічваючы цяжкасці вяскоўцаў, ім на дапамогу прыйшлі спецыялізаваныя атрад і звяно, арганізаваныя пры райаграпрамтэхзабеспячэнні, якія ўзначальваюць вопытныя спецыялісты. Зараз кіраўчане працуюць у калгасах імя Кірава і "III з'езд Саветаў". Першаму дапамагаюць нарыхтоўваць сена, а другому — сянаж. Карыстаюцца паслугамі атрада і звяна і некаторыя іншыя гаспадаркі.

Немалую колькасць кармоў мяркуецца атрымаць і з няўдобіц, якіх у раёне больш тысячы гектараў, у асноўным у пойме ракі Бярэзіны. Узяты пад кантроль і прыдарожныя палосы, і лясныя ўгоддзі. Пастаўлена таксама задача, каб людзі з прадпрыемстваў райцэнтра прыйшлі на дапамогу вяскоўцам: кожнаму неабходна нарыхтаваць мінімум паўтоны сена.

Высокая стаўка сёлета зроблена і на кукурузу, якой ужо занята 2828 гектараў. У параўнанні з леташнімі плошчамі яны павялічаны амаль у тры разы. Сяўба кукурузы працягваецца і зараз. Пасля дожджыкаў з'явіліся дружныя ўсходы, якія даюць падставу разлічваць на атрыманне значнай колькасці зялёнай масы як для падкормкі жывёлы, так і для дадатковай закладкі сіласу.

— Каб укласціся ў вызначаныя тэрміны, штодзённа ў гаспадарках раёна на нарыхтоўцы кармоў задзейнічана не менш 50 агрэгатаў. У сярэднім убіраецца па 5 працэнтаў сенажацяў, — адзначыў Сяргей Уладзіміравіч. — Спадзяёмся, што запланаваную колькасць кармоў сёлета будзем мець, і статку галадаць не давядзецца.

Кіраўніцтва раёна трымае на кантролі і забеспячэнне кармамі ўласных падвор'яў, дзе ўтрымліваецца жывёла, ім прадастаўляюцца сенажаці. У адпаведнасці з заключанымі дагаворамі гаспадаркі абавязуюцца выдзеліць сялянам сена за здаваемыя дзяржаве малако, цялят. Няма праблем у гэтым плане у СКП "Ніва", "Чырвоны баец". Тут пра ўласны статак дбаюць, як і пра грамадскі.

У кожнай гаспадарцы распрацаваны мерапрыемствы, дзякуючы якім за якаснае выкананне заданняў па нарыхтоўцы кармоў механізатары будуць заахвочвацца матэрыяльна. Акрамя гэтага, каб выканаць пастаўленыя задачы, у разлік бяруцца высокая працоўная дысцыпліна, строгае захаванне тэхналогій.

**Таццяна БАРАДЗІНА.**

Мемарыял К.П.Арлоўскага

## МАЦНЕЙШЫЯ ПАЦВЕРДЗІЛІ СВОЙ КЛАС



*Кветкі — да бюста К.П.Арлоўскага.*

На мінулых выхадных адбыўся 32 Мемарыял Героя Савецкага Саюза, Героя Сацыялістычнай Працы Кірылы Пракопавіча Арлоўскага па веласіпеднаму спорту. Удзельнікаў спаборніцтваў, а гэта былі зборныя каманды абласцей і горада Мінска, ад імя праўлення вітаў яго старшыня Валерый Мікалаевіч Іваноў. Кіраўнік гаспадаркі пажадаў спартсменам поспехаў, запрасіў прыехаць і на наступны Мемарыял, гарантаваўшы рассветаўскую гасціннасць.

Да помніка Кірылы Пракопавіча Арлоўскага капітаны каманд ускладаюць кветкі. Пад гукі Дзяржаўнага гімна ўздымаецца сцяг спаборніцтваў. В.М.Іваноў аддае каманду суддзейскай калегіі, якую ўзначальвае суддзя нацыянальнай катэгорыі трэнер мясцовай ДЮСШ майстар спорту Уладзімір Сцяпанавіч Бяляўскі, прыступіць да выканання сваіх непасрэдных абавязкаў — правядзення спаборніцтваў. Праўда, яны распачаліся крыху раней стартамі на дзіцячых веласіпедах выхаванцаў калгаснага садка. Вельмі стараліся дзеткі ў першай сваёй гонцы. А на вышэйшую ступеньку п'едэсталу гонару ўзняўся Уладзімір Каранкевіч. Другое і трэцяе месцы ва ўпартай барацьбе падзялілі Коля Куўшынаў і Мікіта Русецкі. Хто ведае, можа гэтыя старты для рабят з'явяцца пралогам у вялікі спорт. Узнагародай пераможцам былі медалі і каробкі цукерак, астатнім — сувеніры.

У першы дзень веласіпедысты па традыцыі спаборнічалі ў групавой гонцы на 111 кіламетраў. Мужчынам прадстаяла пераадолець тры кругі (Мышкавічы — Кіраўск — Капусціна — Барчыцы — Добасна — Паўлавічы — Кіраўск). Трэба сказаць, што траса добра знаёмая гоншчыкам, таму што абсалютная большасць з іх удзельнічала ў папярэднім Мемарыяле. І вось даецца старт. Спартсмены ў суправаджэнні спецаўтамабіля ДАІ райаддзела ўнутраных спраў адпраўляюцца на дыстанцыю. Ужо на першым крузе група падзялілася на некалькі, якія і вялі між сабой пазіцыйную барацьбу. Садзейнічаў гэтаму і парывісты вецер, які на адкрытых участках уяўляў даволі значную перашкоду. Першым сярод мужчын фінішаваў майстар спорту міжнароднага класа з Гомельскай вобласці Віктар Рэпінскі. Дарэчы, Віктару ў дзень гонкі споўнілася дзевятнаццаць гадоў, а перамога на Мемарыяле будзе памятным падарункам. У тройку прызёраў увайшлі Уладзімір Аўтка з Гродна і Канстанцін Сіўцоў з Гомеля.

**(Заканчэнне на 4-й стар.).**

## НАСУПЕРАК СКЛАДАНАСЦЯМ

На прадстаячую зімоўку ў СКП "Ніва" планавалася нарыхтаваць 800 тон сена, 2310 — сенажу, 1710 — сіласу. Адразу ж трэба адзначыць, што травастой сёлета зрэджаны, яго ўраджайнасць невысокая. І, каб атрымаць запланаваную колькасць кармоў, працаўнікі гаспадаркі не губляюць ніводнай пагодлівай хвіліны.

Без прамаруджвання ніваўцы прыступілі да нарыхтоўкі сена. У сціслыя тэрміны нарыхтавалі запланаваную колькасць — 800 тон і яшчэ дадаткова 25 тон звыш нормы. Своечасова падкармілі сенажаці і пашы, таму разлічваюць яшчэ атрымаць пэўную колькасць сена. З траў першага ўкосу раздалі вяскоўцам па 1800 кілаграмаў сена па мінімальнаму кошту.

Усе механізатары працавалі старанна, укладваючы свой пасільны ўклад у агульную справу. Па паўтары-дзве нормы штодзённа выконвалі А.М.Макаронак, У.І.Навумаў, І.А.Лазарэнка, Г.Р.Макаронак, В.В.Ерамееў, А.С. Петранкоў, М.І.Бандарэнка, М.І.Рымараў, Д.Б.Котаў, І.І.Багданаў, А.М.Сакабіцкі, У.П.Міхальчук і іншыя.

Зараз у гаспадарцы актыўна назапашваецца сянаж. Ужо маецца 1000 тон якаснага корму. Сянажная яма на 500 тон закладзена ў Барсуках, на 275 — у Ізабеліна, зараз запаўняецца яма ў Лешчанцы. Тут стараннасцю вызначаюцца: У.Р.Лукановіч, Я.І.Бандарэнка, У.М.Масюковіч, М.М.Максімаў і Р.Л.Асташоў, якія вызначыўся і на нарыхтоўцы сена.

Вялікія надзеі ніваўцы ўскладаюць і на кукурузу, якой тут пасеяна 50 гектараў. Усе пасевы ўзышлі і добра развіваюцца. Своечасова праведзена міжрадковая апрацоўка, унесены ядахімікаты. Застаецца толькі не ўпусціць час, каб закласці якасны сілас.

## ГАТОВЫ НЕ ЎСЕ КАМБАЙНЫ

Яшчэ 45 працэнтаў камбайнага парку ў гаспадарках рэспублікі не гатова да маючай адбыцца ўборачнай кампаніі. Так, калі ў Гомельскай і Гродзенскай абласцях ужо адрамантаваны 61-66 працэнтаў збожжаўборачных камбайнаў, то ў Магілёўскай і Віцебскай — прыкладна столькі ж яшчэ трэба рамантаваць. Па-ранейшаму застаецца нізкім узровень гатоўнасці камбайнаў Дон-1500, на якія ў асноўным і разлічваюць гаспадаркі ў сёлетнюю ўборку. Трэба адрэгуляваць адну трэць усіх жняярак.

## БРЫКЕТ ПА-НОВАМУ

Новую тэхналогію прасавання паліўных брыкетаў рыхтуюцца ўкараніць беларускія прадпрыемствы тарфяной прамысловасці сумесна з расійскімі партнёрамі. Распрацоўка дасць магчымасць знізіць затраты на здабычу торфу ў 6 разоў. А самі брыкеты будуць падобныя не на вялікія цяжкія цагліны, а на маленькія круглыя таблеткі.

**БелТА.**

**ІНФАРМАЦЫЯ РАЙСЕЛЬГАСХАРЧУ**
**аб ходзе нарыхтоўкі кармоў**
**па становішчу на 23 чэрвеня г.г.**
**(у працэнтах да плана)**

| Гаспадаркі | Скошана ўсяго | Нарыхт. сена | Нарыхт. сенажу |
|---|---|---|---|
| «Рассвет» імя К.П.Арлоўскага | 98,7 | 20,6 | 37,7 |
| СКП «Чырвоны баец» | 91,5 | 106,0 | 144,2 |
| СКП «Ніва» | 86,7 | 103,1 | 46,0 |
| «Шыннік» | 81,4 | 22,7 | 74,0 |
| імя Чапаева | 80,1 | - | 21,9 |
| Жыліцкі сельгаскаледж | 78,7 | 12,5 | 22,6 |
| «III з'езд Саветаў» | 73,6 | 15,6 | 35,0 |
| с-с імя Кірава | 72,3 | 36,0 | 21,8 |
| «Камуніст» | 70,2 | 20,7 | 19,2 |
| імя Дзяржынскага | 68,5 | 42,8 | 15,3 |
| «Радзіма» | 65,2 | 18,3 | - |
| імя Калініна | 64,4 | 17,0 | 9,1 |
| імя Свярдлова | 62,7 | 9,1 | 38,7 |
| імя Кірава | 57,7 | 9,7 | 32,2 |
| «Беларусь» | 43,6 | 2,4 | 65,4 |
| СЗАТ «Бераснёўскае» | 36,5 | 7,5 | 23,3 |
| імя Ільіча | 12,9 | 2,4 | - |
| Усяго па раёне: | 68,2 | 23,3 | 31,0 |

27 июня — последний день подписки на районную газету




*— Задумайся, витязь:*
*направо свернёшь —*
*Там смерть непременно*
*свою ты найдёшь;*
*А ежели прямо*
*ты путь избираешь —*
*Останешься жив,*
*но коня потеряешь.*
*Налево? Мой друг,*
*не сходи же с ума —*
*Главу за такое*
*открутит жена...*
*Не лучше ль с конем*
*обратиться вам вспять:*
*Освоить диван*
*да газету читать?*

*Спецыяльна для тых, хто не паспеў, прадастаўляецца дадатковы дзень — 27 чэрвеня, каб аформіць падпіску на "Кіравец". Спяшайцеся!*



*А.М.Кабернік: 39 гадоў, малодшы саветнік юстыцыі. Нарадзіўся, вырас і атрымаў сярэднюю адукацыю ў г.Бабруйску. Пасля заканчэння ў 1989 годзе следча-пракурорскага факультэта Харкаўскага юрыдычнага інстытута працаваў следчым пракуратуры Бабруйскага раёна. З 1997 года — пракурор Кіраўскага раёна. Жанаты, мае 10-ці гадовую дачку. Жонка таксама юрыст, працуе ў органах пракуратуры г.Бабруйска. Так што надыходзячае свята для Каберніка — сямейна-прафесійнае.*

Інтэрв'ю з нагоды

# НА ВАРЦЕ ЗАКОННАСЦІ

**26 чэрвеня сваё прафесійнае свята адзначаюць работнікі пракуратуры. Яно было заснавана Указам Прэзідэнта рэспублікі ў 1997 годзе. Аднак адлік сваёй гісторыі гэтая праваахоўчая структура вядзе з 1922 года, калі была створана пракуратура першай краіны Саветаў. У гэтую адзіную цэнтралізаваную сістэму органаў, ажыццяўляючых нагляд за дакладным выкананнем законаў увайшла і беларуская пракуратура. Суверэнітэт і незалежнасць Рэспублікі Беларусь адпаведным чынам змянілі і статус пракуратуры, якая выйшла з саюзнага падпарадкавання, стала дзяржаўнай.**

**Раённая пракуратура — частка агульнай сістэмы. Аб тым, якімі клопатамі жыве сёння калектыў пракуратуры, вырашэннем якіх задач займаецца, наша гутарка з пракурорам раёна Анатолем Міхайлавічам КАБЕРНІКАМ.**

* * *

***— Анатоль Міхайлавіч, слова "пракурор" у перакладзе з лацінскай мовы азначае "клапаціцца". Наколькі гэтае першапачатковае значэнне Вашай прафесіі захоўваецца ў сучасных умовах?***

— Мы закліканы стаяць на варце законнасці. І калі расцэньваць нашу работу як клопат аб вяршэнстве Закону, — то ў поўнай меры. Асноўнымі напрамкамі дзейнасці пракуратуры з'яўляюцца: нагляд за разглядам крымінальных і грамадзянскіх спраў у судзе і законнасцю прымаемых рашэнняў, нагляд за дзейнасцю міліцыі, выкананнем заканадаўства суб'ектамі гаспадарання, у тым ліку працоўнага, рэгламентам парадку вырашэння заяў і зваротаў грамадзян. Шмат увагі надаем сельскагаспадарчай вытворчасці, паколькі спецыфіка нашага раёна такая. Пры гэтым акцэнт ставіцца на пытаннях захавання сельгастэхнікі, прадукцыі, кармоў.

У кола нашых прафесійных інтарэсаў уваходзіць і нагляд за захаваннем і выкананнем прыродаахоўнага заканадаўства, станам вод, выкарыстаннем земляў. Ужо сёлета ўсім старшыням калгасаў, кіраўнікам іншых сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, старшыням сельскіх Саветаў дэпутатаў вынесены прадпісанні і афіцыйныя папярэджанні за нерацыянальнае выкарыстанне земляў.

***— Пракуратура не толькі наглядае, але і прымае меры да тых, хто парушае літару Закону?***

— Зразумела. З пачатку года намі праведзена 29 агульнанаглядных праверак, па выніках якіх вынесена 8 прадстаўленняў, 43 прадпісанні аб ухіленні парушэнняў заканадаўства. Асаблівую ўвагу надаём абароне законных правоў і інтарэсаў грамадзян. І гэта пацвярджэнне таго клопату, які ўкладваецца ў сэнс самаго паняцця "пракуратура". Мы не карны орган. Выступаючы ў судзе ў якасці дзяржаўнага абвінаваўцы, патрабуем пакарання вінаватым ва ўчыненні злачынстваў і правапарушэнняў, у штодзённай рабоце абараняем правы незаконна пакараных. Так, па выніках агульнанаглядных праверак, пракуратурай у першым паўгоддзі вынесена 20 пратэстаў на рашэнні адміністрацыйных камісій сельскіх Саветаў дэпутатаў за незаконнае прыцягненне грамадзян да адказнасці.

За гэты перыяд у пракуратуру паступіла 35 скаргаў ад грамадзян раёна на розныя працэсуальныя дзеянні з боку адміністрацый працоўных калектываў, работнікаў дзяржаўных структур. З іх 31 скарга на сённяшні дзень вырашана (згодна заканадаўства на разгляд скаргі даецца 1 месяц і тэрмін прыняцця рашэння па астатніх 4 скаргах не падышоў) :14 прызнаны абгрунтаванымі і задаволены, 17 — беспадстаўныя.

***— Што больш за ўсё непакоіць, засмучае?***

— Рост злоўжывання алкаголем. Гэта адна з асноўных прычын абвастрэння крыміналагеннага становішча. З пачатку года ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года ўдвая павялічылася колькасць злачынстваў, учыненых у стане алкагольнага ап'янення (з 9 да 18), у выніку п'яных разборак учынена 4 забойствы, на 33 працэнты ўзрасла вулічная злачыннасць.

П'янства таксама з'яўляецца прычынай крадзяжоў. А крадуць у нас усё: і прыватнае, і дзяржаўнае. Павялічылася колькасць крадзяжоў з магазінаў з-за іх нізкай тэхнічнай аснашчанасці.

Разам з тым, нельга не адзначыць зніжэння на 27 працэнтаў агульнага ўзроўню злачыннасці. Скарацілася колькасць правапарушэнняў, учыненых непаўналетнімі, зменшылася колькасць выпадкаў хуліганства.

***— У сваёй дзейнасці пракуратура цесна кантактуе з міліцыяй, судом. Як складваюцца адносіны?***

— З аднаго боку, мы ажыццяўляем нагляд за дзейнасцю гэтых структур, а з другога — з'яўляемся партнёрамі, паколькі мэта ў нас адна — захаванне законнасці і правапарадку. І ў гэтым плане назіраецца поўнае ўзаемаразуменне. Юрыспрудэнцыя — навука тонкая, і кожны юрыст можа мець сваё меркаванне. Іншы раз знайсці ісціну няпроста, і вельмі дапамагае парада вопытных і кампетэнтных людзей, такіх, як старшыня раённага суда Н.П.Чмара.

Нельга не адзначыць і таго разумення і супрацоўніцтва, якія склаліся ў нас з раённымі ўладамі. Гэта па-сапраўднаму дапамагае ў рабоце.

***— Анатоль Міхайлавіч, гаворачы аб пракуратуры, Вы увесь час выкарыстоўваеце займеннік "мы". Мы — гэта...***

— Гэта ўвесь наш калектыў. Невялікі, усяго чатыры чалавекі, аднак малады і баяздольны. Яго сярэдні ўзрост — 28 гадоў. З 1996 года ў пракуратуры І.В. Глебка. Закончыла юрыдычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, працавала памочнікам пракурора, а з мінулага года яна мой намеснік. У веданні Ірыны Вадзімаўны нагляд за законнасцю дзеянняў міліцыі, зацвярджэнне абвінавачвальных заключэнняў. Чалавек яна вельмі сур'ёзны і адказны, кампетэнтны юрыст, і ... абаяльная жанчына, сапраўднае ўпрыгожанне нашага мужчынскага калектыву.

Са студзеня 1999 года следчым у нас працуе А.Д. Шведаў, малады, але вельмі здольны спецыяліст. За якаснае вядзенне следства, бездакорную работу ён заахвочаны пракурорам вобласці. А, трэба адзначыць, следчыя пракуратуры вядуць самыя складаныя злачынствы, накіраваныя супраць асобы: згвалтаванні, забойствы, пасадавыя злачынствы.

Памочнікам пракурора са жніўня мінулага года працуе А.М.Пратасенка, выпускнік Мінскага недзяржаўнага юрыдычнага інстытута. Ён ажыццяўляе нагляд за разглядам крымінальных і грамадзянскіх спраў у судзе, выконвае іншыя абавязкі. Гэта наш самы малады, але падаючы надзеі работнік.

Сардэчна віншую сваіх калег з прафесійным святам, жадаю здароўя, шчасця, плёну ў рабоце.

**Размову вяла**
**Таццяна МАІСЕЕНКА.**

Вашы праблемы — наш клопат

# У АДЗІНЫ ДЗЕНЬ ІНФАРМАВАННЯ

**У маі 2000 года ў раёне прайшоў адзіны дзень інфармавання па тэме: "Будучае краіны — моладзь". З дакладамі ў працоўных калектывах выступілі інфарматары раённага выканаўчага камітэта. У ходзе дня інфармавання былі дадзены адказы на шматлікія пытанні, якія паступілі ад насельніцтва.Адказы на пэўную частку пытанняў, адрасаваных кіраўнікам службаў і арганізацый, якія мелі патрэбу ў дадатковым вывучэнні, публікуюцца ў раённай газеце.**

***— Калі будзе ліквідавана запазычанасць ААТ "Кіраўск-Лён" за спажытую бюджэтнымі арганізацыямі раёна цеплаэнергію? Адсутнасць грашовых сродкаў стрымлівае правядзенне работ па падрыхтоўцы кацельні завода да ацяпляльнага сезону 2000-2001 года.***

Намеснік загадчыка аддзела фінансаў райвыканкама Г.Г.Шупікава паведамляе, што пагашэнне запазычанасці бюджэтных устаноў раёна за адпушчаную кацельняй ААТ "Кіраўск-Лён" цеплаэнергію будзе ажыццяўляцца на працягу 2000 года ў першачарговым парадку пры наяўнасці асігнаванняў і паступленні грашовых сродкаў на разліковы рахунак раённага бюджэту.

***— Вельмі марудна ідуць работы па будаўніцтву шатровых дахаў дамоў №№81, 83, размешчаных па вуліцы Гагарына райцэнтра. Калі будуць завершаны работы па ўладкаванню дахаў на гэтых дамах?***

Начальнік РБУ С.А.Сініцкі інфармуе, што работы па будаўніцтву шатровага даху на доме №81 будуць завершаны да 1 ліпеня бягучага года. У сувязі з недахопам грашовых сродкаў работы па будаўніцтву даху дома №83 часова затрымліваюцца. Па меры паступлення грашовых сродкаў з раённага бюджэту яны будуць прадоўжаны.

***— Небходна правесці работы па знішчэнню грызуноў у падвале дома №2, размешчанага па вуліцы Валадарскага райцэнтра.***

Галоўны санітарны ўрач раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі В.Ф.Верам'ёў паведамляе, што цэнтр ажыццяўляе работы па барацьбе з грызунамі на платных умовах. Арганізацыям, згодна заключанага дагавора, — за безнаяўны разлік. Насельніцтву ў індывідуальным парадку прадаецца пратручаная прынада для знішчэння грызуноў: 100 грамаў — 230 рублёў. Грамадзянам, пражываючым у доме №2 па вул.Валадарскага, якія жадаюць індывідуальна правесці работу па знішчэнню грызуноў, неабходна звярнуцца ў раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі для набыцця прынады.

**Аддзел інфармацыі**
**райвыканкама.**

*Думкі ўслых*

# НАШ ЛЕС — ШТО ХОЧАМ, ТОЕ І РОБІМ?

Надышлі доўгачаканыя канікулы, калі мы не абцяжараны ні ўрокамі, ні дамашнімі заданнямі. Свабода!

Але не аб свабодзе хачу расказаць, а аб тым, як з надыходам летніх цёплых дзянькоў забруджваюцца вадаёмы, тэрыторыя вакол іх, лясныя масівы і іншыя месцы адпачынку. Большая частка адпачываючых на прыродзе пакідае пасля сябе сапраўдныя сметнікі, выкідваючы бутэлькі шкляныя і пластмасавыя, рэшткі ежы, розную паперу, якую затым вецер разносіць па наваколлю. Ці задавольвае вас, паважаныя адпачываючыя, такая перспектыва?

А што робіцца на возеры ў райцэнтры! Уявіце сабе, што ў спякотны час сутак вы заходзіце ў халаднаватую ваду і рухаецеся ўсё глыбей і глыбей. Але што гэта? У нагу ўпіваецца кавалак шкла. І ўжо вы не на возеры, а ў бальніцы на перавязцы. Ну, і як?

Ці вось яшчэ прыклад. Нядаўна мы з сяброўкай праходзілі міма таго месца, дзе адпачывалі дзеці з лагера. І тое месца нагадвала звалку. Напрошваецца пытанне: "Куды глядзелі выхавальнікі?"

На памяць прыходзіць рэклама "Грынпіса", дзе задаецца пытанне: "Наш лес — што хочам, тое і робім?". Прырода — гэта не ўласнасць, а багацце народа, і яго патрэбна берагчы.

**Вольга НАКЦАВА,**
**в.Н.Стаўпішчы.**

*Ура — канікулы!*

# ЗАПАМІНАЛЬНЫЯ ПАДАРОЖЖЫ

Вось і прыйшлі доўгачаканыя летнія канікулы — час адпачынку, паходаў і экскурсій. Яшчэ падчас вучобы мы запланавалі падарожжа па памятных мясцінах нашай краіны, звязаных з гісторыяй Вялікай Айчыннай вайны. І вось ў пачатку чэрвеня група вучняў нашай школы ў саставе 43 чалавек адправілася ў шлях. Экскурсію праводзіла вопытны экскурсавод Бабруйскага экскурсбюро З.Р.Дзмітрук. У ходзе паездкі яна расказвала нам пра памятныя мясціны раёна, вобласці, рэспублікі. Наш шлях праходзіў праз гарады Бабруйск, Чэрвень, Смалявічы, Лагойск. Мы наведалі мемарыяльны комплекс "Хатынь". З заміраннем сэрца, прыціхлыя, пад'язджалі да гэтай спаленай фашыстамі вёскі, якая стала сімвалам соцень такіх жа беларускіх вёсак-ахвяр апошняй вайны. Мы ўсклалі кветкі да помніка загінуўшым жыхарам вёскі, пліты, на якой высечаны назвы вёсак нашага раёна, падзяліўшых лёс Хатыні.

У час наведвання гэтага мемарыяльнага комплексу мы сустрэлі там экскурсантаў з Гродна, Брэста, а таксама далёкага замежжа — Індыі, Германіі. Гэта сведчыць аб тым, што боль беларускага народа зразумелы людзям розных пакаленняў і краін. Наведалі мы і Курган Славы.

Другую палавіну дня мы правялі ў парку адпачынку імя Горкага горада Мінска. Усім вельмі спадабаліся разнастайныя атракцыёны, мы прынялі ўдзел у праводзімых у парку гульнях і нават выйгралі некалькі прызоў.

Дзень выдаўся багатым на розныя ўражанні. Стомленыя, але вельмі задаволеныя вярталіся мы дадому. А дапамаглі нам арганізаваць гэтую паездку нашы настаўнікі А.І.Смірноў, Л.І.Смірнова, Л.І.Зацэпіна і нашы бацькі, за што мы ім вельмі ўдзячныя.

Але ж на гэтым падарожжы цікавыя мерапрыемствы, запланаваныя на час канікулаў, не закончыліся. Праз тыдзень разам з нашым настаўнікам геаграфіі А.І.Смірновым мы адправіліся ў паход па славутых мясцінах роднай Кіраўшчыны. Што можа быць лепш за трохдзённы паход: маляўнічы бераг Чыгірынскага вадасховішча, сонца, рыбалка, касцёр з духмянай юшкай.



Шлях да месца адпачынку пралягаў праз вёску Боркі. Тут мы пазнаёміліся яшчэ з адной старонкай гісторыі нашага раёна. Жыхароў гэтай вёскі ў гады Вялікай Айчыннай вайны напаткала жудасная трагедыя: у час карнай аперацыі фашыстаў вёска была спалена, у агні згарэлі і людзі.

Мы сустрэліся з насельніцтвам Борак. Пераканаліся, што тут жывуць працавітыя, добрыя людзі. Шчырую падзяку хочацца выказаць сям'і Валянціна Мікалаевіча Манько, якая прыняла нас на начлег, пачаставала парным малаком. Гаспадар дома, які працуе егерам, расказаў аб цікавых паляўнічых здарэннях, паказаў трафеі, паведаміў аб прымаемых мерах па ахове дзікіх жывёлін.

За час нашых падарожжаў мы даведаліся аб многім, добра адпачылі. А наперадзе — лета, і яно, упэўнены, прынясе яшчэ шмат цікавага.

**Міхаіл СТАРАВОЙТАЎ,**
**Антон КАРАНКЕВІЧ,**
**члены гуртка**
**"Географы-краязнаўцы"**
**СШ №1.**

# ВЯСЁЛЫ АДПАЧЫНАК

Нельга апісаць, як мы, школьнікі, чакалі летніх канікулаў, каб адпачыць ад падручнікаў і сшыткаў, урокаў і нават перапынкаў. Пэўны час мы знаходзіліся ў аздараўленчым лагеры, які арганізаваны на базе Любоніцкай участковай бальніцы.

За той час, які мы знаходзіліся там, мы вельмі пасябравалі з хлопчыкамі і дзяўчынкамі, якія прыехалі сюды з розных населеных пунктаў, абмяняліся з імі сваімі адрасамі.

Нам вельмі спадабаліся мерапрыемствы, якія арганізоўвала для нас выхавальніца Вераніка Лапс. Кожны дзень нас чакала нешта цікавае: гульні, віктарыны, конкурсы.

Вераніка — навучэнка Горацкага педвучылішча, займаецца на апошнім курсе. А ў час летніх канікулаў вырашыла папрацаваць у лагеры. Мы ёй вельмі ўдзячныя, надоўга застануцца ў нашай памяці праведзеныя разам вясёлыя дні. Сваёй энергічнасцю, ініцыятыўнасцю яна запальвала нашы сэрцы, натхняла на розныя цікавыя справы. Няхай і надалей не згасае яе энтузіязм, не патухаюць іскрынкі вясёлага настрою.

**Мікалай ПАРХАМОВІЧ,**
**вучань СШ №1 райцэнтра.**

**ПОЗДРАВЛЯЕМ!**



**г. п. Кировск,
ул. Володарского, 128, кв.1,
СЕРГЕЮ МАКАРОВИЧУ
КАРПОВУ
Дорогой муж, любимый
папочка и дедушка!**

***Поздравляем тебя с 50-летием.***

*Отец родной наш,
дедушка любимый,
Простой, хороший человек.
Здоровья мы тебе желаем
На весь оставшийся твой век.
За доброту души и сердца
Поклон ты низкий наш прими,
Отец родной наш,
дедушка наш милый,
Живи подольше с нами ты.*

**Жена, дети, зять, внуки
Анастасия и Максим.**

---

**Тэрмінова прадаюцца: тры дамы** у г. п. Кіраўску; **жалезныя вароты, халадзільнікі, мэбля, пральныя машыны, дзіцячыя ложкі, піяніна, відэаапаратура, тэлевізары, посуд, дываны, паласы, рэчы (ўсё было ў карыстанні).**

**За даведкамі звяртацца па тэлефоне 23-1-85** у любы час.

**Прадаем трохпакаёвую кватэру** з усімі зручнасцямі у г.п.Кіраўску **або мяняем на 2 і 1-пакаёвую, невялікі дом з даплатай.** Магчымы варыянты.

**За даведкамі звяртацца па тэлефоне 22-8-68.**

**Прадаецца драўляны дом** у в. Кострыцкая Слабодка.

**Звяртацца на адрас: в.К.Слабодка, вул.Лугавая, дом 49** *да Галіны Міхайлаўны Міхалап* **або званіць па тэлефоне у г. Бабруйску (8-251) 4-99-52** пасля 18 гадзін.

---

# МАЦНЕЙШЫЯ ПАЦВЕРДЗІЛІ СВОЙ КЛАС



*Старшыня праўлення В.М.Іваноў уручае галоўны прыз прадстаўніку каманды Гомельскай вобласці.*



*Аксана Горбач і Святлана Прыходзька перад стартам.*

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Пасля закрыцця фінішу ў мужчын даецца старт жанчынам, якія спаборнічалі на дыстанцыі ўтрая карацейшай. За зборную каманду Магілёўскай вобласці выступаюць былыя выхаванцы Уладзіміра Сцяпанавіча Бяляўскага Алеся Горбач і Святлана Прыходзька. Зараз дзяўчаты шліфуюць сваё майстэрства ў школе алімпійскага рэзерву. І трэба адзначыць, робяць гэта паспяхова: Святлана, напрыклад, на фінішы была сёмай, а пераможцай Мемарыялу стала Таццяна Макеева з Віцебска. Другое месца ў Вольгі Гаевай з Гомеля, трэцяе — у Валянціны Волчак з каманды Мінскай вобласці.

Думаецца, чытачам цікава будзе даведацца, што ў гонках удзельнічалі і яшчэ два прадстаўнікі, якія маюць непасрэднае дачыненне да нашага раёна, да Мышкавіч. Гэта Аляксандр Бяляўскі і Павел Скудны. Абодва майстры спорту, абодва выступалі за сталіцу нашай краіны. Іх бацькі Уладзімір Бяляўскі і Уладзімір Скудны таксама майстры спорту, нарадзіліся і выраслі ў Мышкавічах, у свой час былі пераможцамі Мемарыялу. Больш таго, Уладзімір Бяляўскі — унук легендарнага Арлоўскага, а яго сын ужо даводзіцца праўнукам. Хлопцы роўна выступалі ў абедзвюх гонках, прынёсшы заліковыя ачкі сваёй камандзе. Павел нават быў чацвёртым у гонцы-крытэрыуме, за што ўдастоены каштоўнага прыза.

На другі дзень праводзілася гонка-крытэрыум, у якой разыгрывалася званне чэмпіёна рэспублікі. Дыстанцыя пралягала па вуліцах вёскі Мышкавічы, круг — 2,2 кіламетра. Мужчынам патрабавалася пераадолець 28 кругоў, жанчынам — 18. Кожны цотны круг — заліковы. Інакш кажучы, на фінішы кожнага цотнага круга чатыры першыя ўдзельнікі атрымліваюць ачкі: за першае месца — 5, другое — 3, трэцяе — 2, чацвёртае — 1 ачко. На прамежкавым фінішы пасярэдзіне дыстанцыі і на асноўным фінішы ачкі падвайваюцца. У прыгожай тактычна і даволі напружанай барацьбе званне чэмпіёна рэспублікі Беларусь заваяваў чэмпіён свету мінулага года ў каманднай гонцы на трэку Віктар Рэпінскі. Нязначна ўступіў яму таварыш па камандзе Уладзімір Сляпцоў, Дзяніс Ісачанка з Мінскай вобласці стаў бронзавым прызёрам.

У жанчын яшчэ на першых кругах у адрыў "уцяклі" Вераніка Шарамецьева, Таццяна Макеева з Віцебскай і Вольга Гаева з Гомельскай вобласці. Набіраючы ачкі на прамежкавых і асноўным фінішах, яны ў такім парадку і ўзняліся на п'едэстал гонару.

Камандную перамогу ўпэўнена заваявалі спартсмены Гомельскай вобласці, якім і ўручаны пераходны прыз Мемарыялу, другое месца за віцябчанамі, трэцяе — у сталічных гоншчыкаў. Пераможцы і прызёры ў асабістым заліку, акрамя медалёў і дыпломаў арганізатараў спаборніцтваў, узнагароджаны і каштоўнымі падарункамі праўлення калгаса.

**Пятро СУРЫНОВІЧ.
Фота аўтара.**



*Вераніка Шарамецьева — чэмпіёнка рэспублікі ў гонцы-крытэрыуме.*



*Віктар Рэпінскі — пераможца Мемарыялу.*



*На п'едэстале гонару юныя веласіпедысты.*

---

## *Паважаныя кватэранаймальнікі!*

*Да 1 жніўня гэтага года праводзіцца перарэгістрацыя пасведчанняў грамадзян, якім прадастаўляюцца льготы пры аплаце жылой плошчы і камунальных паслуг.*

*Грамадзяне, якія не пройдуць перарэгістрацыю, будуць пазбаўлены льгот.*

**Адміністрацыя РВА ЖКГ.**

---

***Унітарнае вытворча-нарыхтоўчае прадпрыемства "Каапнарыхтпрам" прымае ад насельніцтва ў неабмежаванай колькасці па цане за 1 кілаграм:***

- клубніцы свежыя — **500 рублёў;**
- грыбы "лісічкі" — **700 рублёў;**
- чарніцы свежыя — **500 рублёў;**
- моркву — **90 рублёў;**
- буракі — **40 рублёў;**
- капусту — **70 рублёў.**



**Адміністрацыя.**

---

**Прадаецца аўтамабіль ВАЗ-2109** 1988 года выпуску, белага колеру (рухавік 1300, новая гума, прычапное устройства, магнітола).

**За даведкамі звяртацца па тэлефоне 21-8-14.**

**Прадаецца ВАЗ-2106** 1989 года выпуску, у добрым тэхнічным стане. **Цана па дамоўленасці.**



**За даведкамі звяртацца па тэлефоне 46-5-32** пасля 18 гадзін.

---

## Внимание абонентов телефонной сети г.п.Кировска и Кировского района!

***С 1 июля 2000 года вводится немедленная система обслуживания вызовов, проходящих через телефонистку области. Для выхода на телефонистку области абоненты должны набрать:***

**ГТС Кировск — 8-18 или 8-19**
**Сельских АТС — 9-8-18 или 9-8-19.**

Областная телефонистка принимает заказы на междугородние и международные разговоры.

**Телефонистка г.п.Кировска с 1 июля 2000 года принимать и обслуживать междугородние и международные разговоры не будет,** за исключением абонентов, не имеющих выхода на автоматическую междугороднюю связь.

**Районный узел электрической связи.**

---

**Сям'я зніме дом у г.п.Кіраўску.**
**З прапановамі звяртацца па тэлефоне 37-1-00.**

**Маладая сям'я зніме кватэру** з усімі зручнасцямі ў г.п. Кіраўску.

**З прапановамі звяртацца па тэлефоне 38-2-20** пасля 17 гадзін.

---

## У РЭДАКЦЫЮ "КІРАЎЦА"

Вялікае гора напаткала нашу сям'ю — трагічна памёр дарагі і любімы наш муж, бацька, дзядуля **Леанід Іларыёнавіч Пятруша.**

Гэта незаменная для нас страта. Мы вельмі ўдзячныя ўсім, хто не пакінуў нас у бядзе, падтрымаў з першых хвілін напаткаўшага гора. Выказваем шчырую ўдзячнасць калектывам работнікаў падатковай інспекцыі, райаграпрамтэхзабеспячэння, ААТ "Кіраўская райсельгасхімія", родным, блізкім, сябрам, суседзям і знаёмым, якія аказалі нам маральную і матэрыяльную падтрымку, прыйшлі, каб правесці ў апошні шлях дарагога нам чалавека.

Вялікі дзякуй вам, добрыя людзі.

**З удзячнасцю і павагай сям'я Л.С.Пятрушы.**

---

**Калектыў работнікаў прадпрыемства меліярацыйных сістэм** выказвае глыбокае спачуванне старшыні райвыканкама **Аляксандру Сцяпанавічу СЦЯПАНЧАНКУ і яго РОДНЫМ** з выпадку смерці **ЦЕСЦЯ, БАЦЬКІ, ДЗЯДУЛІ.**

**Калектыў работнікаў аддзела культуры** выказвае глыбокае спачуванне старшыні райвыканкама **Аляксандру Сцяпанавічу СЦЯПАНЧАНКУ і яго РОДНЫМ** з выпадку смерці **ЦЕСЦЯ, БАЦЬКІ, ДЗЯДУЛІ.**

**Праўленне, прафкам, увесь працоўны калектыў СКП "Чырвоны баец"** выказваюць глыбокае спачуванне старшыні райвыканкама **Аляксандру Сцяпанавічу СЦЯПАНЧАНКУ і яго РОДНЫМ** з выпадку смерці **ЦЕСЦЯ, БАЦЬКІ, ДЗЯДУЛІ.**

**Праўленне, прафкам, увесь працоўны калектыў саўгаса "Шыннік"** выказваюць глыбокае спачуванне старшыні райвыканкама **Аляксандру Сцяпанавічу СЦЯПАНЧАНКУ і яго РОДНЫМ** з выпадку смерці **ЦЕСЦЯ, БАЦЬКІ, ДЗЯДУЛІ.**

**Праўленне, прафкам, увесь працоўны калектыў калгаса імя Кірава** выказваюць глыбокае спачуванне старшыні райвыканкама **Аляксандру Сцяпанавічу СЦЯПАНЧАНКУ і яго РОДНЫМ** з выпадку смерці **ЦЕСЦЯ, БАЦЬКІ, ДЗЯДУЛІ.**

**Калектыў работнікаў малочнатаварнай фермы калгаса "Рассвет" імя К.П.Арлоўскага** глыбока смуткуе з выпадку смерці былога ветфельчара **Мікалая Пракопавіча ГРАБНЁВА** і падзяляе вялікае гора з **яго ДЗЕЦЬМІ,** усімі **РОДНЫМІ і БЛІЗКІМІ.**

---

## Уважаемые кировчане! Отделение ОАО "БЕЛАГРОПРОМБАНК" в г.п.Кировске сообщает о введении с 7 июня 2000 года нового вида вклада

*С 7 июня 2000 года открыт новый вид срочного рублевого вклада "Отпускной" сроком* ***на 14 дней с начислением 150% годовых.***

***Минимальная сумма вклада 10000 рублей.***

**Также напоминаем условия ранее действующих вкладов:** ***на 95 дней с начислением*** **100% годовых** *по истечении каждых 15 дней начисленные проценты причисляются к основному вкладу; 30 дней —* **105% годовых;** *95 дней —* **110% годовых;** *180 дней —* **120% годовых;** *370 дней —* **130% годовых.**

**Ждем Вас в нашем отделении ОАО "Белагропромбанк" по адресу: г.п.Кировск, ул.Кирова, 53.**

---

# ДА ЎВАГІ ГРАМАДЗЯН

Паважаныя кіраўчане! У апошні час сталі больш частымі крадзяжы з падвалаў, гаражоў, хлявоў жыхароў. Злаўмыснікі не грэбуюць ні чым. Пасля іх "візітаў" прападаюць не толькі слоікі з тушонкай, варэннем, кансервай, а і пустая тара. Крадуць курэй, гусей, качак, маладняк хатняй птушкі. З гаражоў злодзеі цягнуць шыны, запчасткі, іншае. А пранікаюць нячыстыя на руку асобы ў памяшканні рознымі шляхамі. Адзін з іх — падбор ключоў да замкоў. Асабліва лёгка адмыкаюцца замкі, узор якіх змешчаны на здымку. Супрацоўнікі аддзялення крымінальнага вышуку звяртаюцца да ўсіх жыхароў з просьбай больш сур'ёзна ставіцца да захавання сваёй маёмасці. Украдзенае, на жаль, не заўсёды ўдаецца вярнуць.



**Служба крымінальнага вышуку РАУС. Тэлефоны: 21-3-26, 21-3-37.**

***Рэдактар Пятро СУРЫНОВІЧ***

*Заснавальнікі:
Кіраўскі раённы Савет дэпутатаў,
Кіраўскі раённы выканаўчы камітэт,
рэдакцыя газеты "Кіравец"*

**Рэгістрацыйны № 285.
Падпісана да друку ў 17 гадзін.**

Наш адрас: *Рэспубліка Беларусь, 213940, Магілёўская вобласць, г. п. Кіраўск, вул. Пушкінская, 15.*
Тэлефоны: *рэдактар 21-2-63, намеснік рэдактара, адказны сакратар, аддзел грамадска-палітычнага жыцця 21-5-69, аддзелы аграпрамысловага комплексу і экалогіі, пісьмаў і сацыяльных праблем 21-5-35, бухгалтэрыя 21-4-76, спецыялісты настольна-выдавецкай сістэмы 21-3-93.*

*Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і сапраўднасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннямі рэдакцыі. Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.*

*Аб'ём — адзін друкаваны аркуш
Газета выходзіць у сераду і суботу
на беларускай мове.*

*Індэкс газеты - 64077. Заказ 3540.
Бабруйская ўзбуйнёная друкарня
імя Непагодзіна, вул. Сацыялістычная,103.
Друк афсетны. Тыраж чэрвеня 2786.*